СТАРЫ АЛЬБОМ




Выпуск беларускага аддзялення Маладзечанскага настаўніцкага інстытута. Навучальная ўстанова існавала з 1947 па 1955 год на вуліцы Савецкай (цяпер Віленская, будынак школы юнага тэхніка).

Сярод выкладчыкаў **Уладзімір Альіцкі, Сцяпан Грабчыкаў, Іван Бабкоўскі, Фёдар Зянчкоўскі** (дырэктар), **Масквічоў, Алег Шчукін, Мікола Ермаловіч**.

ФОТА З АЛЬБОМА АЛЕГА ШЧУКІНА.

КУЛЬТУРА

## «Жывы гук» дапяў да Вілейкі

ВІЛЕЙКА. 5 ліпеня Вілейка святкавала Дзень вызвалення. Заўсёды поўная людзьмі ў такія дні Дубаўка - урочышча паблізу Віліі - і ў гэты дзень гуляла ад душы. Дапамаглі ж вілейчанам пасвяточнаму пабавіць час артысты **Дзяржаўнага эстраднага аркестра пад кіраўніцтвам Міхаіла Фінберга** з іх візітоўкай - «жывым гукам». Выходзілі таксама да гледачоў расійскі спявак **Уладзімір Ухцінскі**, старшыня Саюза кампазітараў Беларусі **Ігар Лучанок** і прадстаўнік Беларусі ў СНД **Сяргей Посахаў**. Фундаваў свята мінчанін **Анатоль Ахутдзянаў**, у якога з Вілейкі паходзіць жонка і які ў гэты дзень адзначаў свой дзень нараджэння.

Ніякіх эксцэсаў і надзвычайных здарэнняў, акрамя аднаго выпадку хуліганства (разбілі чалавеку нос), міліцыяй зарэгістравана не было.

*Мікола ГАЙДУК.*

## Нашы ў сталіцы

МАЛАДЗЕЧНА. Падчас 20–гадовага юбілею мастацкая школа выставіла работы навучэнцаў у сталічным Палацы Мастацтваў – каля 70 твораў дэкаратыўна–прыкладнога мастацтва. Гэта дыпломная работа **Дзмітрыя Мароза** "Чароўны куфэрак", работы сясцёр **Надзеі і Веранікі Архіменак, Аляксандра Полаза, Генадзя Ермаковіча, Вольгі Рамановіч, Дзіны Міцько, Валерыя Зянько**. Нельга не адзначыць і выкладчыкаў школы **Людмілу Борыс, Аксану Глебец**.

*Аддзел інфармацыі.*

ВІЛЕЙКА

## Лепшы бібліятэкар - казачніца

У конкурсе на лепшага бібліятэкара перамагла **Ала Юркевіч** з Даўгінава. Прыз глядацкіх сімпатый у **Маі Місюль** з Чыжэвічаў. Акрамя дамашняга задання – бібліятэка будучага, жанчыны шукалі выйсце са спецыяльна падрыхтаванай тупіковай сітуацыі, былі ў ролі казачніц.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

ВАЛОЖЫН

## Юнакі ў цане

У СШ №1 адкрываецца спецыялізаваны клас Мінскага вышэйшага лётна–тэхнічнага каледжа. Пакуль такі спецклас быў толькі ў сталіцы. Набіраюць туды юнакоў з адукацыяй 9 класаў. Пры школе ёсць інтэрнат.

А ў гімназіі адкрываецца ваенна–патрыятычны клас ад ваеннай Акадэміі. Таксама для юнакоў з базавай адукацыяй.

Выпускныя экзамены ў школах будуць лічыцца ўступнымі ў вышэйшыя ўстановы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

ВІЛЕЙКА

## Мільён за чырвоны дыплом

Раённае аддзяленне дзіцячага фонду заснавала стыпендыю для выдатнікаў – навучэнцаў мясцовых вучылішчаў, Ільянскага тэхнікума з ліку дзяцей–сірот.

Памер гадавой стыпендыі складае 1 мільён рублёў. Сёлета яе атрымаў адзін з навучэнцаў ПТВ–124.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

АБРАДЫ

# Ночы на Івана Купалу

- Піва для беларусаў, – гаворыць паэтка, даследчык старажытнай культуры беларускага народа **Антаніна Хатэнка**, – надзвычайна важная дэталь у абрадавых дзеяннях. Пра кулінарную частку гэтых абрадаў мы вельмі няшмат ведаем. У нас, як і ў балцкіх народаў, асабліва, латышоў, на першае месца выходзіць Купалле. Сутыкненне жыцця і смерці, кахання і барацьбы з каханнем, супрацьстаянне святла і цемры. Гэта адзіная кропка ў гадавым календары, дзе ідзе ўсведамленне ўсіх з'яўленняў людзей на зямлі, усяго жывога.

Хрысціянства адмаўляла язычніцкія абрады і культы менавіта таму, што ў чалавека было вельмі моцнае яднанне з прыродай, чалавек не адчуваў над сабой бога–тырана, ён адчуваў бога ў сабе ў першую чаргу, і бога навокал, ва ўсёй жывой прыродзе. І вось піва ў Купалле адыгрывае вельмі важную ролю гэтага расліннага глытка. Гэтай расліннай сілы, бо ў купальскую ноч пра ўсё думаецца чарадзейнымі паняццямі, таму што ўся сіла прыроды да Купалля ўвайшла ў расліну. У купальскую ноч яна ўсю яе аддае. Звычайна ўнутраныя сілы ў табе недзе дрэмлюць. Чалавек закамплексаваны. А спіртны напітак разнявольвае. Піва дае той прыток жыццёвых сіл, якія ідуць вонкі. Хмель быццам бы абвівае свядомасць. Латышы, калі пачынаюць купальскую ноч Ліга, то абавязкова вараць піва.

Піва – гэта першы крок прычашчэння да свята. Яшчэ на гэтай урачыстасці павінен быць сыр, ягады, і, вядома ж, выпечкі з мукі сонечнай формы. У латышоў піва ўсю ноч п'юць. У нас, на жаль, даўно забыліся на гэтую традыцыю і замяняюць іншымі напіткамі. Бо кожнае піццё стварае пэўную атмасферу. Калі б мы навучылі людзей ставіцца да піцця як да рытуала, як умелі рабіць гэта нашы продкі, то ў нас знялося б вельмі многа псіхалагічных праблем. Людзі ж п'юць у нас не рытуальна, не ўваходзячы ў тую прастору, што стварае напітак, не датыкаючыся сутнасці часцінкі жыцця.

*Мікалай ВАСІЛЕЎСКІ.*



ХРОНІКА

## Сумныя падарункі

ВІЛЕЙКА. Кожны работнік міліцыі са свайго заробку выдаткаваў па 100 тысяч рублёў. На гэтыя грошы набылі гадзіннікі, ласункі непаўнагадовым дзецям сямей Х., В. Іх таты працавалі ў РАУС. Раптоўна пайшлі з жыцця.

*Марына ТАЧЫНСКАЯ.*

КРЫМІНАЛ

## Мужна трымаўся юнак на допыце

ВІЛЕЙКА. У бальніцу з апёкамі трапіў мужчына. Уваліўся ў касцёр – патлумачыў ён. Але ягоны пацярпелы выгляд, сляды апёкаў на целе гаварылі пра іншае. Супрацоўнікі РАУС правялі даследаванне. На самой справе "хворы" ў Порсе з кватэры выкраў буйную суму долараў. Пра гэта даведаліся двое раней судзімых і вырашылі грошы адабраць. А з той прычыны, што добраахвотна чалавек аддаваць не хацеў, пачалі катаваць: да цела прыціскалі запаленыя цыгарэты, распаленыя лыжкі. Але мужна трымаўся злачынца і грошы не аддаў. Тыя ж на "мокрую" справу не пайшлі. На ўсіх заведзеныя крымінальныя справы.

*Алена ІРЫСАВА.*

## Гары, жонка, сінім полымем

МАЛАДЗЕЧНА. У рэанімацыю з вуліцы Садовай даставілі 48–гадовую жанчыну.

Дыягназ – інфіцыраваныя апёкі III ступені. Спалена 30 працэнтаў тулава. У прытомнасці хворая расказала, што гатавала ежу, калі ўзарвалася газавая пліта.

Супрацоўнікі крымінальнага вышуку **Юрый Шынгель, Генадзь Сідзяка** праверылі версію, але тая не пацвердзілася. Сведкаў трагедыі не знайшлі. Муж пацярпелай некуды знік. Суседзі сказалі, што часцяком у гэтай сям'і былі разборкі, прычым з бойкамі. Узнікла версія: цялесныя пашкоджанні прычыніў муж. За чатыры гадзіны да смерці жанчына ў гэтым прызналася.

Пасля чарговай спрэчкі калісьці каханы схапіў каністру з бензінам, лінуў на жонку і падпаліў. Жывая паходня лётала па двары – гэта людзі бачылі і выклікалі "хуткую дапамогу". Мужа–забойцу затрымалі ў Насілаве. У ізалятары часовага ўтрымання ён прызнаўся ў злачынстве.

*Аддзел інфармацыі.*

## Удакладненне

У мінулым нумары «РГ» у матэрыяле «Аб матэрыяльнай падтрымцы» гаварылася аб маючай адбыцца ў Маладзечне выплаце матэрыяльнай дапамогі жонкам памерлых інвалідаў вайны і дзецям загінуўшых бацькоў у час вайны, якія не змаглі стварыць сям"ю і цяпер адзінокія. Як паведаміла намеснік загадчыка Маладзечанскага гарадскога аддзела сацыяльнай абароны насельніцтва **Галіна Копач**, такая дапамога толькі планавалася і, на жаль, у цяперашні час яна аказаная не будзе.

*Рэдакцыя.*

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-27.*

## Прысутнічаю, але не галасую

***Мясцовы "Капітолій" (падобны на сапраўдны не толькі па функцыях, але і чыста знешне) уразіў. У першую чаргу, брудам і неахайнасцю вакол.***



*Будынак узводзілі спецыяльна пад "Капітолій", ніхто ні ў каго нічога не адбіраў.*

ФОТА АЎТАРА.

Тэатр пачынаецца з вешалкі; многія амерыканскія ўстановы пачынаюцца з паркоўкі. Аўтамабіль давялося ставіць на незаасфальтаваным (!) участку. Як патлумачылі мясцовыя, гэта свайго роду палітыка: падаткаплацельшчыкі, мы нават ля адміністрацыйнага будынка не ў стане парадак навесці, таму не патрабуйце ад нас зашмат.

Але ж грошы на прыбіральшчыка маглі б і знайсці: перад уваходам багата было прывычных воку беларуса недапалкаў.

Далей уразіў выдатны інтэр'ер будынка, які чымсьці нагадвае нашыя культавыя ўстановы. Багацейшая бібліятэка, тут жа месціцца Вярхоўны суд штата.

Палата сенатараў (50 чалавек ад 25 год) і палата прадстаўнікоў (100 чалавек ад 21 года) галасуюць не толькі "за", "супраць" ці "ўстрымліваюцца", а маюць права і на "прысутнічаю, але не галасую". "Рэспубліканцы" тут у большасці.

**Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.**



*Губернатар Аёвы **Terry E. Branstad** на сваёй пасадзе 16 год (чацвёрты тэрмін), што для дэмакратычна–свабоднай (часам аж занадта) Амерыкі, якая на аўтарытэты не асабліва зважае, выглядае нейкім кур'ёзам. Значыць, жывецца аёўцам някепска пры ім.*

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 1.06 | 8.07 |
| Курыныя галёнкі | 1 кг | | 80,5 |
| Кілбаса паўвэндж. | 1 кг | | 181 |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 96,2 | 104 |
| Селядзец салёны | 1 кг | адсутн. | 50,6 |
| Рыс | 1 кг | 32 | 32 |
| Цукар | 1 кг | адсутн. | 28,5 |
| Грэчка | 1 кг | 33 | 35 |
| Алей | 1 л | 68 | 72 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 27 | 26,3 |
| Маянэз | 250 г | 22 | 20 |
| Кава "Пеле" | 100 г | 75 | 75 |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 26 | 26 |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 25 | 32,2 |
| Лімоны | 1кг | 65 | 55 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 30 | 30 |
| Масла | 1 кг | 80 | 90 |
| Тварог | 1 кг | 25 | 30 |
| Малако | 1 л | 9 | 8 |
| Бульба свежая | 1 кг | | 30 |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | 32 |

ЛАВІСЯ, РЫБКА

# Браканьеры: класіфікацыя

***Да XIX стагоддзя рыбу, злоўленую ў Віліі, а потым засушаную, адпраўлялі да Балтыйскага мора, а адтуль у Еўропу. Яшчэ гадоў 50 таму трапляліся ў рацэ шчупакі, усе парослыя мохам, даўжынёй па паўтара метра і вагой да 20 кілаграмаў. А шчупачыную ікру салілі бочачкамі.***

Цяпер усяго гэтага няма. Вялікую ролю ў скарачэнні запасаў рыбы адыграла агульнае забруджванне наваколля. Гэта змыў з палёў угнаенняў, скідванне тэхнічнай вады з прадпрыемстваў, а чаго каштуе аварыя, у выніку якой у Вілію трапіла каля 10 тон аміяку. Але гутарка ў артыкуле пойдзе пра браканьерства, якое бязлітасна знішчае рэшткі рыбы.

Усе браканьеры падзяляюцца на **аматараў**, якія рыбачаць час ад часу, і **прафесіяналаў**, якія ловяць рыбу рэгулярна і жывуць за кошт гэтага. Ад рыбакоў можна пачуць: "Сёння злавіў мала – усяго бульбяны мех".

Цяпер ловяць, у асноўным, на вадасховішчы. Вялікая плошча, расчлянёнасць берагавой лініі дазваляе амаль беспакарана займацца забароненым промыслам. А калі і аштрафуюць, дык прафесіянал за адну ноч верне страчанае. Ловяць рыбу сеткамі з дапамогай зменшаных наплаўкоў. Такія наплаўкі не трымаюць сетку на паверхні вады, а дазваляюць ёй завіснуць за метр ад паверхні. Падобнае рыбацкае прыстасаванне амаль не відаць. Можна праплыць над ім і нічога не заўважыць.

Ставяць сетку па арыенцірах, вядомых толькі гаспадару, а вымаюць з дапамогай "кошкі". У прафесіяналаў такіх сетак можа быць некалькі соцень метраў. Але гэта адносна гуманны сродак рыбнай лоўлі. Па–першае, усё вадасховішча не перагародзіш, па–другое, малькі свабодна праходзяць праз самае маленькае вочка. У наш час чалавек прыдумаў самы бязлітасны від рыбнай лоўлі – электравуду, якую можа змайстраваць любы школьнік–радыёаматар. Электравуда губіць усё жывое ў радыусе некалькіх метраў (у залежнасці ад магутнасці генератара). Гэтая рыба распрадаецца па сваіх каналах: дзе–небудзь каля прадуктовага магазіна ці на рынку стаіць звычайна бабка і прапануе кілаграм рыбы. А пасля кожнага прададзенага ў яе з'яўляецца новы.

Яшчэ адзін канал збыту – гэта прадпрыемствы грамадскага харчавання. Калі вы закажаце ў рэстаране судака ў цесце, то вялікая верагоднасць таго, што гэты дэлікатэс з Вілейскага вадасховішча.

З браканьерамі вядзе барацьбу, акрамя вілейскай і рэспубліканскай рыбааховы, вілейскай і маладзечанскай пазаведамаснай аховы, нават мінскі АМОН, асабліва ў час нерасту. Работнікі аснашчаныя рацыямі, прыборамі начнога бачання і нават відэакамерамі. Але гэтага не заўсёды дастаткова на 137–кіламетровай берагавой лініі, бо і браканьеры "не лыкам шытыя". Маючы магутныя біноклі, якія дазваляюць яшчэ здалёк заўважыць небяспеку, яны па вядомых толькі ім сцежках знікаюць у лесе, што шчыльна падыходзіць да берага.

Летась МУС сумесна з упраўленнем Вілейска–Мінскай воднай сістэмы планавала стварыць узвод экалагічнай міліцыі, асноўнай мэтай якой была б ахова вадасховішча і канала. Але не знайшлося сродкаў. Калі грошы знойдуцца, ці будзе што ахоўваць?

**Ігар КІЦІКАЎ.**

КАМАНДЗІРОЎКА

# Рэспубліка рабоў

*Пачатак на 1-й стар.*

Днямі Варлама пакрыўдзілі. Зранку на ягоным месцы прапісаўся Ленін з Гомеля. Састарэлы мужчына з бародкай і "Праўдой" у руцэ выставіў прэйскурант паслуг у 4 разы таннейшы за Галаянаўскі. Прычым на занятым даўно месцы. Беларуса "паперлі" (дапамаглі работнікі рынку). Гавораць, цяпер свой бізнес ён імкнецца наладзіць недзе ў рабочых кварталах.

Ваенны карэспандэнт расійскай "Новай газеты" **Вячаслаў Ізмайлаў** неаднаразова выступаў па ОРТ у праграме "Взгляд". Ён дапамагае вызваляць людзей з чачэнскага палону. Пры расійскім прэзідэнце створаная камісія па вызваленні ваеннапалонных, і Генпракуратура дапамагае выцягваць людзей мірных спецыяльнасцяў (спецыялістаў, таксама тых, хто прыехаў да сваякоў у госці), а палоннымі беларусамі ў Чачні ніхто не займаецца. А іх (не ваенных), на думку маёра Ізмайлава, чалавек 30. Цяпер Вячаслаў прапрацоўвае, у прыватнасці, варыянты вызвалення 13–гадовага гродзенца.

На Арбаце **Сяргей з Заслаўя** граў на гітары (грошы амаль не кідалі). А работнік аховы гасцініцы "Мінск" паказаў на аўтобусны прыпынак:

– Гэта таксама ваш, беларус.

Аднак пазнаёміцца не давялося: стары бомж спаў на лаўцы, побач стаяла пустая бутэлька з–пад гарэлкі.

**Васіль САВІЦКІ.**

# З'явіліся чарніцы

АСТРАВЕЦ. Мясцовыя жыхары заўжды падзарабляюць на чарніцах. Балазе, іх нарыхтоўкай займаюцца райнарыхтпрам, райспажывтаварыства і лясгас.

Аднак сёлета ягадны бізнес мае істотныя адрозненні: чарніц у лесе не так ужо і шмат, а закупачныя цэны ўзраслі на 5–6 тысячаў рублёў за кілаграм. І калі летась ля прыёмных пунктаў выстройваліся чэргі, то цяпер здаць ягады не праблема. Магчыма, людзі праўдамі і няпраўдамі спрабуюць збыць гэты стратэгічны прадукт у Літве, дзе кожны літр прыносіць амаль долар даходу.

**Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.**

СЦЕРАЖЫСЯ, БІЗНЕСМЕН

# Леў ідзе на паляванне

***СМАРГОНЬ. Цар звяроў рэдка палюе сам. Гэта справа львіцы. Леў толькі паядае ахвяру. Калі ж самка занятая выхаваннем нашчадкаў, дзеля чаго яна звычайна хаваецца глыбока ў джунглі, то лянівы татачка найчасцей харчуецца тым, што засталося пасля балявання драбнейшых драпежнікаў.***

Герой гэтага аповяду не толькі звычкамі нагадвае льва, але і знешнасцю. Яго лёгка вылучыць з натоўпу, дзякуючы магутнаму целаскладу і саламянай капне валасоў, якія больш падобныя на грыву льва.

Праўда, ёсць і адрозненне – раз на тры–чатыры гады мой знаёмы "леў" выходзіць на паляванне сам. Патэнцыяльная ахвяра – сярэдні бізнесмен. З вельмі "крутымі" ён звязвацца баіцца, а з рознай там "драбязы" малы навар атрымліваецца.

Справа ідзе па адным сцэнарыі: шукаю, маўляў, паплечніка для авантуры, якая быццам бы абяцае буйны прыбытак. Уявіце: вам прапануюць тысячы "зялёных" амаль ні за што, хіба толькі пару даляраў у вас пазычаць на таксі ды яшчэ з сотню на жыццё (авансам). Затое праз дзень–два вы можаце стаць уладальнікам мільярднага (у рублях, натуральна) даходу. Ёсць яшчэ адна ўмова: ніхто не мусіць пра гэта ведаць; справа, маўляў небяспечная, у ёй бяруць удзел "вялікія шышкі" – генерал КДБ, ён жа стрыечны брат нашага "льва" ды галоўны інжынер нейкага сакрэтнага ваеннага завода ў Санкт–Пецярбурзе, ён жа швагра. Справа пахне крыміналам, але хіба грошы маюць пах?

Чым больш "вешае на вушы" наш леў–камбінатар, тым больш яму вераць. Прычым людзі далёка не дурныя, але занадта даверлівыя, якія мараць паправіць фінансавы стан сваёй фірмы адным махам. Няхай сабе і не зусім сумленным шляхам, але ж кожны падумае, што адзін раз можна; да таго ж, такія "шышкі" замяшаныя, няхай гэты грэх будзе на іх душы.

Даверлівы бізнесмен чуе ўжо, як шамацяць у яго далонях далярчыкі, таму гатовы ўсяляк дагадзіць свайму кампаньёну: корміць, поіць, возіць на сваёй машыне з Маладзечна або Мінска да яго хаты, што ў невялікім мястэчку пад Смаргонню. Здаровы сэнс усё больш заглушаецца зялёным міражом і не здольны перамагчы гурбу хлусні і ўсё новых прыдумак вялікага камбінатара. То яму патрэбныя даляры на дарогу да Санкт–Пецярбурга, то на хабар нейкаму чыноўніку, то на мытныя падаткі і так амаль бясконца.

У адзін "чорны" дзень "леў" у развітальным лісце, перададзеным праз пасынка, паведамляе, што аперацыя правалілася: генерал арыштаваны, галоўны інжынер пад следствам, а ён сам мусіць хавацца, таму бліжэйшыя пяць год яго не варта шукаць. Каб не атрымаць непрыемнасцей на сваю і яго галаву.

Гады з чатыры таму штосьці падобнае адбывалася ў Маладзечне і некаторыя з бізнесменаў трапіліся на кручок авантурыста. Справы мінулыя і, магчыма, не вартыя ўвагі. Каб не адно здарэнне.

Днямі ў адной са смаргонскіх крамаў чую знаёмы голас, які абяцае загадчыцы тону свежай рыбы ў дзень і фуру цукру ў тыдзень, а яшчэ некалькі вагонаў солі і гэтак далей. Праўда, загадчыца глядзела на "льва" стомлена–абыякавым позіркам, што сведчыла аб адсутнасці зацікаўленасці ў сумеснай дзейнасці.

Але, як відаць, знойдзецца хтосьці і паверыць фантазіям гэтага чалавека. Таму, што ён вельмі "круты", што ў яго пяць кватэр і дзесяць магазінаў па ўсёй Беларусі і за яе межамі. Але ж дармавы сыр бывае толькі ў пастцы.

**Ала СТРАШЫНСКАЯ.**

ПАСЛУГІ

# Ты здымі мяне, фатограф

ВІЛЕЙКА. Наўрад ці разлічвалі французы Л. Дагер і Ж. Ньепс, што іх вынаходніцтва менш чым праз два стагоддзі завою свет, што любая прыстойная сям'я палічыць за абавязак мець у хаце фотаальбом. А са з'яўленнем у гарадах прыёмных пунктаў і лабараторый "Kodak" альбо "Fuji" кожны грамадзянін атрымае магчымасць застацца ў гісторыі. Прычым хутка, танна і ў любой позе.




*Спецыялісты "Kodak"–Сервіса" брыгадзір Алег Крайнеў і аператар міні-фоталабараторыі Віктар Крайнеў.*

ФОТА МАРЫІ КРАСОЎСКАЙ.

Нядаўна такая магчымасць з'явілася і ў жыхароў Вілейкі: у мясцовым Доме быту пачало працаваць даччынае прадпрыемства "Kodak"–Сервіс". Да паслуг кліентаў шырокі выбар прапаноў – ад праяўкі плёнак і друкавання фатаграфій самых хадавых фарматаў да бясплатнага пракату фотаапаратаў, продажу аўдыё– і відэатэхнікі. Спецыялісты "Kodak"–Сервіса" здольныя аднавіць нават самыя патрапаныя часам здымкі, павялічыць іх да неабходных памераў і аздобіць рамкай.

Да слова. Паслугі вілейскіх фотамайстроў самыя танныя ў рэгіёне.

**Віталь ПАШУК.**

## ПАНЯДЗЕЛАК 13 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Юды, Якава; кат. Эрнеста, Генрыха.

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Резонанс
8.50 Прогноз погоды
9.05 Сегодня с вами...
9.40 Премьера песни
9.55 Мультфильм
10.05 Здоровье.
10.35 ТАЙНА САХАРЫ. Телесериал (Ит.-Швейцария-ФРГ)
11.35 Бездельник
12.05 Теленавигатор
12.25 А музыка звучит...
13.00 Новости
13.15 ТРЕСТ, КОТОРЫЙ ЛОПНУЛ. По О'Генри
14.35 Параграф. Передача для безработных
15.00 Новости
15.10 Французский язык
15.40 ДЕВОЧКА И ОКЕАН (Австралия).1-я серия
16.05 Куда пойти учиться? Институт по радиоэкологии
16.20 Регион. Могилев
17.00 Очерк о путешественнике А.Ривьере
17.25 К Национальному празднику Франции
17.50 Балет К.Дебюсси Ночные цветы
18.00 Новости
18.20 Тайна Сахары. Телесериал (Ит.-Швейцария-ФРГ)
19.15 Хит-парад
19.20 Сегодня с вами... Техдиректор "Забудовы" Бурак
20.00 Морской бой. Телелото
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.55 Смеяться - не грех
22.15 СВАДЬБА В МАЛИНОВКЕ
23.45 Чемпионат Евр. по волейболу. Жен. Беларусь - Россия
0.20 Новости
0.35 Третий тайм

**ОРТ**

17.00 Новости
17.20 КОРОЛЕК - ПТИЧКА ПЕВЧАЯ. 1-я с. Сериал (Турция)
18.00 Погода
18.05 Час пик
18.30 Угадай мелодию
19.00 Человек в маске
19.45 Спокойной ночи...
20.00 Время
20.40 ГОРЕЦ. Приключенческий сериал (США - Фр. - Ит.)
21.50 Ваш М.Пуговкин. В гостях у любимого артиста
22.25 ЕВГЕНИЙ ОНЕГИН. Музыкальная драма.
0.15 Новости

**РТР**

13.00 Вести
13.30 Н.ПАГАНИНИ. 1-я с.
14.40 Мультфильмы
15.00 Башня
15.30 ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ. Сериал (Фр.)
16.00 Вести
16.30 Автоспорт: чемп. России
17.20 ПАНИКА В НЕБЕСАХ. Психолог. триллер. США
19.00 Вести
19.25 Подробности
19.45 САНТА-БАРБАРА
20.45 Открытие Всемирных юношеских игр
22.55 Вести
23.15 Дежурная часть
23.30 Волейбол. Мировая лига. Испания - Россия

**НТВ**

5.00 - 8.00 Информационная программа, спорт, погода
8.05 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС. ВЕЧЕРИНКА (США)
9.00 Сегодня
9.10 Вчера в Итогах
10.10 Итого с Шендеровичем
10.25 Итоги. Ночной разговор
11.00 Сегодня
11.25 ВСЯ КОРОЛЕВСКАЯ РАТЬ. 2-я часть
13.00 Сегодня
13.15 ЛЮБОВЬ И ТАЙНЫ САНСЕТ БИЧ
14.00 Футбольный клуб на чемпионате мира
15.00 Сегодня
15.20 Улица Сезам
15.50 "Человек-паук"
16.15 ВОЙНА В КОСМОСЕ
17.05 Криминал
17.15 Впрок
17.25 Футбольный клуб
18.00 Сегодня вечером
18.30 Николай II. Док.сериал
19.00 СПОРТЛОТО-82. Комедия
21.00 Сегодня вечером. Информационно-публицистическая программа
21.50 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС. ВЕЧЕРИНКА (США)
22.45 Сегодняччко
23.20 Сегодня
23.45 БАЙКИ ИЗ СКЛЕПА

**КУЛЬТУРА**

7.05,13.00,19.30 Новости культуры
7.25 Парадоксы истории
7.50 Музыка из Петербурга.
8.30 Природные заповедники
9.00,11.00,15.00, 17.00 Новости
9.05 САМПО (Мосфильм)
11.05 Музыкальный экспромт
11.15 Книжный кладезь
11.35 Кремлевские няньки
12.15 Гоголь "Владимир III ст."
14.45 Вместе с Фафалей
15.05 Мультфильмы
15.50 Лукоморье
16.10 Музыкальный экспромт
16.20 Международное обозрение
17.10 Сокровища Петербурга
17.25 Вижу цель!
17.50 Люди в моде
18.05 Дом Романовых. Док.ф.
19.15 Чудо-сказка
19.50 Остров А.Сокурова.
20.45 После новостей...
21.05 ЕГОР БУЛЫЧЕВ И ДРУГИЕ
22.30 Джазофрения

**ТВ-6**

6.25 Головокружительные приключения Билла и Теда
6.45 ДИСК-канал
7.10 Дорожный патруль
7.30 ТСН-6
8.40 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
8.20 Обозреватель
9.25 Катастрофы недели
9.55 Спорт недели
10.30 ТСН-6
10.45 Знак качества
10.55 О.С.П.-Студия
11.45 Обоз
12.40 Телемагазин
13.10 Любишь - смотри
13.30 ТСН-6
13.40 РАБЫНЯ ИЗАУРА
14.50 Мультфильмы
15.25 Знак качества
16.00 ДИСК-канал
16.30 ТСН-6
16.35 Дорожный патруль
16.50 Любишь - смотри
17.00 Те Кто
17.50 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
18.30 Акулы политпера.
19.30 Новости дня
19.55 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
20.55 ШЕЛЬМЕНКО-ДЕНЩИК
22.45 ТСН-6
22.55 Дорожный патруль
23.10 ДИСК-канал
23.55 Знак качества

**ТВ-ЦЕНТР**

7.30 МАРИМАР
8.25 Всемирн. юношеские игры
12.55,14.55,16.30,23.20 Новости
13.00 Дамский клуб Элита
13.15 Мультфильм
13.25 Остановка по требованию
14.00 МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ
15.30 Остров партнеров
15.55 Мультфильмы
16.45 Как добиться успеха
16.50 Сто к одному
18.55 Вечерние новости
19.25 Всемирн. юн. игры
21.25 Киноконцерт
21.45 Легенды. В.Сальников
22.15 Всемирные юношеские игры
23.30 Княгиня. Т.И.Васильчикова-Меттерних.
0.10 Музыкальный форум-98

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35 ТЕЛОХРАНИТЕЛИ
10.30 Триллер СМЕРТЕЛЬНАЯ ОПАСНОСТЬ (США)
12.10 КиНовости
12.20 Музыкальная драма РОЗА
14.30 О.Грюнер, Э.Робертс в боевике Р.Рэдлера ДИНАМИТ
16.00 Мотор! На съемочной площадке фильма САБРИНА
16.20 САБРИНА (США)
18.25 Приключенческий сериале СОЛДАТ УДАЧИ (США)
19.10 КиНовости
19.20 Д.Уэйн, Р.Хадсон в вестерне Э.Маклаглена НЕПОБЕЖДЕННЫЕ (США)
21.15 ЛЕБЕДИНАЯ ПЕСНЯ (США)
22.50 Криминальная драма СМЕРТЕЛЬНЫЙ ХОЛОД (США)

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04 СПАСАТЕЛЬ. Мелодрама
10.40 ТРОЕ В ЛОДКЕ, НЕ СЧИТАЯ СОБАКИ. Комедия
12.50 МОНОЛОГ. Кинодрама
14.25 КиНовости
14.35 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
15.40 СИЛЬВА. Кинооперетта
17.00 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
18.10 ШЕЛЬМЕНКО-ДЕНЩИК
19.40 КиНовости
19.50 МОРСКОЙ ВОЛК. 1-я с.
21.20 ЖЕНСКИЙ ДЕНЬ. Мелодр

## АЎТОРАК 14 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Ангеліны, Нікадзіма; кат. Банавентуры, Марцэля.

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Новости
8.15 Сегодня с вами...
8.50 Потребительская корзина
9.05 Земляки
10.00 Земля кладов
10.35 ТАЙНА САХАРЫ
11.30 Туробъектив
11.50 Авто-парк
12.00 Бон тон
12.25 Акколада
13.00 Новости
13.15 Приключения Гулливера
14.10 На соискание Госпремии
14.35 Макаенка, 9
15.00 Новости
15.15 Видеофильм
15.40 ДЕВОЧКА И ОКЕАН
16.05 Мультфильм
16.15 Поэт Анатолий Аврутин
16.30 Уроки Н.Новожиловой
17.00 Художник Вл. Качан
17.30 Многоголосие
18.00 Новости
18.20 ТАЙНА САХАРЫ
19.15 Хит-парад
19.25 Сегодня с вами...
20.05 Музыка без границ
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.55 Смеяться - не грех
22.15 ЛИЧНЫЕ СЧЕТЫ
23.35 Новости
0.10 КВН

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15 КОРОЛЕК -ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
9.00 Человек в маске
9.45 Смехопанорама
10.20 Домашняя библиотека
10.30 Угадай мелодию
11.00 Новости
11.15 Вместе
14.00 Новости
14.20 Тин-Тин идет по следу
14.55 Счастливый случай
15.40 ПЕЩЕРА ЗОЛОТОЙ РОЗЫ
16.10 ...До 16 и старше
16.30 Вокруг света.
17.00 Новости
17.20 КОРОЛЕК-ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
18.05 Час пик
18.30 Угадай мелодию
19.00 Тема
19.45 Спокойной ночи...!
20.00 Время
20.40 НЕСКОЛЬКО ДНЕЙ ИЗ ЖИЗНИ И.И.ОБЛОМОВА
23.20 Новости
23.35 ОСЕННЯЯ СОНАТА

**РТР**

6.00 Мультфильм
6.15 Проснись!
6.30 Вести
7.00 Дежурная часть
7.15 Товары - почтой
7.20 Стронг представляет
7.30 Деньги
7.45 Православный календарь.
7.50 Мультфильмы
8.15 Диалоги о животных
9.10 САНТА-БАРБАРА
10.00 Вести
13.00 Вести
13.30 НИККОЛО ПАГАНИНИ
14.40 Мультфильмы
15.00 Башня
15.30 ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ
16.00 Вести
16.35 Кроссворд
17.05 ВАЛЕНТИНА
18.45 Обращение Алексия II
19.00 Вести
19.25 Подробности
19.45 САНТА-БАРБАРА
20.45 РАЗВЯЗКА ПЕТЕРБУРГСКИХ ТАЙН
22.45 ПСИ ФАКТОР
22.40 Вести
23.00 Дежурная часть
23.15 Волейбол. Нидерл. - Россия

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ
8.05 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС
9.00 Сегодня
9.15 БЕЛЫЕ НОЧИ
11.00 Сегодня
11.25 ВСЯ КОРОЛЕВСКАЯ РАТЬ
13.00 Сегодня
13.15 ЛЮБОВЬ И ТАЙНЫ САНСЕТ БИЧ
14.00 Уимблдон. Итоги
15.00 Сегодня
15.20 Улица Сезам
15.50 Мульти-лето
16.15 ВОЙНА В КОСМОСЕ
17.05 Криминал
17.15 Впрок
17.25 Криминальная Россия
18.00 Сегодня вечером
18.30 Николай II.Док.сериал.
19.00 ЛУЧШИЕ ИЗ ЛУЧШИХ
21.00 Сегодня
21.50 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС
22.45 Сегодняччко
23.20 Сегодня
23.45 ПРИКОСНОВЕНИЕ

**КУЛЬТУРА**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Новости культуры
7.25 Музыкальный экспромт
7.35 ЕГОР БУЛЫЧЕВ И ДРУГИЕ
9.00,11.00,15.00, 17.00 Новости
9.05 Дом Романовых. Док.-фильм.
10.05 Романсиада - 98
10.25 Док фильм
11.05 Муззкспромт
11.15 Формат
11.35 Смуглая леди сонетов. Спект.
12.15 Воскресенье в провинции
13.15 Мой тяжкий крест
14.05 Я садовником родился
14.20 Коллекция
14.30 Ноу-хау
14.45 Вместе с Фафалей
15.05 Мультфильмы
15.50 Лукоморье
16.10 Зинаида Гиппиус
16.45 К 60-летию СПБ ТВ
17.10 Театр и я
17.50 Шальные бабы. Фильм
18.15 Дом Романовых. Док.ф.
19.15 Чудо-сказка
19.50 Баталов о К.Паустовском
20.20 Вспоминая конкурс
20.45 После новостей...
21.05 К 80-летию И. Бергмана
21.30 ОСЕННЯЯ СОНАТА

**ТВ-6**

6.05 Видеоклипы
6.25 ... Приключения Билла и Теда
6.45 ДИСК-канал
7.10 Дорожный патруль
7.30 ТСН-6
8.40 Знак качества
8.00 Мультфильм
8.25 АЛЯСКА КИД
8.55 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
9.30 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
10.30 ТСН-6
10.45 Знак качества
11.00 Пальчики оближешь
11.30 Территория ТВ 6
12.00 Акулы политпера
12.50 Телемагазин
13.20 Впервые...Первые...Вперед...
13.30 ТСН-6
13.40 РАБЫНЯ ИЗАУРА
15.00 Великие ценности мира
15.30 Мультфильм
16.00 ДИСК-канал
16.30 ТСН-6
16.35 Дорожный патруль
16.50 Любишь - смотри
17.00 Те Кто
17.50 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
18.30 Мужской клуб
19.30 Новости дня
19.55 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
20.55 ГЕРЦОГИНЯ ДЕ ЛАНЖЕ
22.35 ТСН-6
22.45 Дорожный патруль
23.00 ДИСК-канал
23.45 Знак качества
0.00 ЗМЕИНОЕ ЯЙЦО

**ТВ-ЦЕНТР**

4.50, 6.15 Навигатор
7.30 МАРИМАР
8.25 Всемирные юношеские игры
12.55,14.55,19.50,23.20 Новости
13.00 Комильфо
13.15 Мультфильм
13.25 Интернет-кафе
14.00 МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ
15.30 Всемирн. юношеские игры
18.50 Modern talking
19.55 Брейн-ринг
20.55 Новости
21.15 ФЕНИКС
22.15 Всемирн. юношеские игры
23.45 ПРИГОВОР
1.10 Музфорум-98

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35 СОЛДАТ УДАЧИ
10.20 САБРИНА
12.25 Календарь Мира кино
12.40 ДРАКУЛА (США)
14.25 КиНовости
14.35 ЛЕБЕДИНАЯ ПЕСНЯ (США)
16.10 НЕПОБЕЖДЕННЫЕ (США)
18.05 СОЛДАТ УДАЧИ
18.50 КиНовости
19.00 СИЦИЛИЙСКИЙ КЛАН
20.55 Календарь Мира кино
21.10 НОЧЬ НАКАНУНЕ (США)
22.40 ДРАКУЛА (США)

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04 МОРСКОЙ ВОЛК. 1-я с.
10.35 ЖЕНСКИЙ ДЕНЬ
11.55 ШЕЛЬМЕНКО-ДЕНЩИК
13.25 КиНовости
13.35 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
14.45 РАБОЧИЙ ПОСЕЛОК
17.00 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
18.20 ОСЕННИЙ МАРАФОН
19.50 МОРСКОЙ ВОЛК
20.55 КиНовости
21.05 ФОНТАН Комедия

## СЕРАДА 15 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Ювеналія; кат. Генрыка, Уладзіміра.

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Новости
8.15 Сегодня с вами...
8.50 Потребительская корзина
9.05 Я рисую
9.15 Компьютерный полигон
9.35 Око
9.55 Многоголосие
10.30 ТАЙНА САХАРЫ
11.25 Видимо-невидимо
12.25 А музыка звучит...
13.00 Новости
13.10 ТРЕСТ, КОТОРЫЙ ЛОПНУЛ
14.20 Зорная ростань. Финал
15.00 Новости
15.15 Французскоий язык
15.45 5 х 5
16.20 ДЕВОЧКА И ОКЕАН
16.45 Мультфильм
17.00 Монолог
17.30 Судьба моя и надежда
18.00 Новости
18.20 ТАЙНА САХАРЫ
19.15 Хит-парад
19.20 Сегодня с вами...
19.55 Королевская охота
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.55 Смеяться - не грех
22.15 ДЖОННИ - ЗУБОЧИСТКА
0.05 Новости
0.20 Джаз в ночи

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15 КОРОЛЕК - ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
9.00 Тема
10.45 В мире животных
10.35 Угадай мелодию
11.00 Новости
11.15 Вместе
14.00 Новости
14.20 Тин-Тин идет по следу
14.45 Классная компания
15.10 Зов джунглей
15.40 ПЕЩЕРА ЗОЛОТОЙ РОЗЫ
16.10 ...До 16 и старше
16.30 Вокруг света.
17.00 Новости
17.20 КОРОЛЕК - ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
18.00 Футбол. Чемпионат России. Спартак - Зенит
20.00 Время
20.40 РЕАЛЬНАЯ УГРОЗА
22.50 Спецрепортаж из Екатеринбурга
23.00 Романовы: крушение династии
0.00 Новости
0.15 ВИНТОВАЯ ЛЕСТНИЦА

**РТР**

6.00 Мультфильм
6.15 Проснись!
6.30 Вести
7.00 Дежурная часть
7.30 Деньги
7.45 Православный календарь.
7.50 Мультфильмы
8.15 Маски-шоу
8.40 Подиум д'Арт
9.10 САНТА-БАРБАРА
10.00 Вести
13.00 Вести
13.30 НИККОЛО ПАГАНИНИ
14.35 Мультфильм
15.00 Башня
15.30 ПЕРВЫЕ ПОЦЕЛУИ
16.00 Вести
16.30 На дорогах России
16.50 Кроссворд
18.20 ЛЕКАРСТВО ОТ ЛЮБВИ
19.00 Вести
19.25 Подробности
19.45 САНТА-БАРБАРА
20.45 РАЗВЯЗКА ПЕТЕРБУРГСКИХ ТАЙН
21.45 АГАТА КРИСТИ. ПУАРО
22.45 Вести
23.05 Дежурная часть
23.20 Волейбол. Мировая лига. Бразилия - Россия.

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ
8.05 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС
8.50 Мультфильм
9.00 Сегодня
9.15 Я, БАБУШКА, ИЛИКО И ИЛЛАРИОН
11.00 Сегодня
11.20 ПРОВИНЦИАЛКА
13.00 Сегодня
13.15 ЛЮБОВЬ И ТАЙНЫ САНСЕТ БИЧ
14.00 Уимблдон. Итоги
15.00 Сегодня
15.20 Улица Сезам
15.50 Мульти-лето
16.15 ВОЙНА В КОСМОСЕ
17.05 Криминал
17.15 Впрок
17.25 Криминальная Россия
18.00 Сегодня вечером
18.30 Николай II. Круг жизни.
19.00 СВАДЬБА МЮРИЭЛЬ
21.00 Сегодня
21.50 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС. НЕИСТОВЫЙ (США)
22.45 Сегодняччко
23.20 Сегодня
23.45 Чемпионат РФ по футб.

**КУЛЬТУРА**

15.00, 17.00 Новости
15.05 М/ф
15.55 Лукоморье
16.15 Зинаида Гиппиус
16.45 Музыкальный экспромт
17.10 Академия спорта
17.30 Театральная провинция?
17.55 Комики XX столетия
19.10 Чудо-сказка
19.50 Будем веселиться
20.30 Оркестр Мира
21.45 СЕДЬМАЯ ПЕЧАТЬ

**ТВ-6**

14.10 РАБЫНЯ ИЗАУРА
15.25 Мультфильм
16.00 ДИСК-канал
16.30 ТСН-6
16.35 Дорожный патруль
16.50 Видеоклипы
17.00 Те Кто
17.50 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
18.30 Я сама
19.30 Новости дня
19.55 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
20.50 ПРИГОВОР
22.50 ТСН-6
23.00 Дорожный патруль
23.10 ДИСК-канал
0.00 Знак качества
0.15 СИЛОВЫЕ ИГРЫ

**ТВ-ЦЕНТР**

4.50, 6.15 Навигатор
7.30 МАРИМАР
8.25 На Всем. юн. играх
9.30 На Всем. юн. играх
12.55, 13.55, 14.55, 23.20 Новости
13.00 История болезни
13.15 Мультфильм
13.25 Галерея Б.Ноткина
14.00 МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ
15.30, 17.45 На Всем. юн. играх
19.00 ГОД КОМЕТЫ
20.55 Новости
21.15 ФЕНИКС
22.15 На Всем. юн. играх
23.35 Оркестр мира
0.45 Хроно
1.25 Музфорум-98

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35 СОЛДАТ УДАЧИ
10.20 АВТОМОЙКА
11.55 СИЦИЛИЙСКИЙ КЛАН
13.50 КиНовости
14.00 НОЧЬ НАКАНУНЕ
15.30 БЕЗ ТЕНИ СОМНЕНИЯ
17.20 СОЛДАТ УДАЧИ
18.05 АВТОМОЙКА
19.40 КиНовости
19.50 НЕВЕСТА ДЕКАБРЯ
21.15 ОБМЕН КЛЮЧАМИ
22.50 Угадай кино
9.04 МОРСКОЙ ВОЛК
10.10 ФОНТАН
11.50 ОСЕННИЙ МАРАФОН
13.20 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
14.40 КиНовости
14.50 РОМАНС О ВЛЮБЛЕННЫХ
17.00 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
18.05 КиНовости
18.15 КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА...
19.30 МОРСКОЙ ВОЛК
20.35 ОТЦЫ

## ЧАЦВЕР 16 ЛІПЕНЯ

Імяніны: пр. Яўлампія, Піліпа; кат. Марыі, Яўстафія.

**БТ**

7.00 Доброе утро, Беларусь!
8.00 Новости
8.15 Сегодня с вами...
8.50 Потребительская корзина. Социально-экономическая программа
9.10 Усадьба. Программа для дачников
9.35 Телебом
10.35 ТАЙНА САХАРЫ. Телесериал (Италия-Швейцария-ФРГ). 6-я серия
11.30 Королевская охота
12.10 К Национальному празднику Франции
12.35 Сельчане
13.00 Новости
13.15 Телефестиваль патриотической песни из г.Бреста
14.45 Счастье одинокого баяниста. Док. фильм
15.00 Новости
15.15 Страна волшебных сердец
16.00 ДЕВОЧКА И ОКЕАН
16.25 Родное слово
**17.00 Юбилейные концерты народного артиста Беларуси М.Казинца**
17.40 ...В вечное пользование... Док. фильм
18.00 Новости
18.20 ТАЙНА САХАРЫ
19.15 Хит-парад
19.25 Сегодня с вами...
20.00 Могилевский металлургический завод
20.15 Криминальная хроника
20.40 Колыбельная
21.00 Панорама
21.55 Смеяться - не грешно
22.15 ДОЛГ В ЛЮБВИ
23.35 Крок
0.05 Новости
0.20 Акколада

**ОРТ**

8.00 Новости
8.15 КОРОЛЕК - ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
9.00 Ваш Михаил Пуговкин
9.35 Пока все дома
10.20 Домашняя библиотека
10.30 Эти забавные животные
11.00 Новости
11.15 Вместе
14.00 Новости
14.20 Невероятные приключения Джонни Квеста
14.45 Классная компания
15.10 Детские анекдоты
15.40 ПЕЩЕРА ЗОЛОТОЙ РОЗЫ
16.10 ...До 16 и старше
16.30 Вокруг света
17.00 Новости
17.20 КОРОЛЕК - ПТИЧКА ПЕВЧАЯ
18.05 Час пик
18.30 Эти забавные животные
19.00 В поисках утраченного
19.45 Спокойной ночи...!
20.00 Время
20.40 МУЖИКИ!
22.30 Специальный репортаж из СПБ
22.40 Док.фильм
23.40 Новости
23.50 Тихий дом

**РТР**

6.00 Мультфильм
6.15 Проснись!
6.30 Вести
7.00 Дежурная часть
8.30 Деньги
7.45 Православный календарь.
7.50 Мультфильмы
8.15 Вовремя
8.45 Сам себе режиссер
9.10 САНТА-БАРБАРА
10.00 Вести
13.00 Вести
13.30 Док.фильмы
15.05 Сонм белых княжон
16.00 Вести
16.35 Сонм белых княжон
17.25 ИСЧАДЬЕ АДА
19.00 Вести
19.25 Подробности
19.45 САНТА-БАРБАРА
20.45 РАЗВЯЗКА ПЕТЕРБУРГСКИХ ТАЙН
21.45 ПРИТВОРЩИК
22.40 Вести
23.00 Дежурная часть
23.15 Подиум д'Арт
23.40 ЛИЦОМ К ЛИЦУ

**НТВ**

5.00 - 8.00 СЕГОДНЯ УТРОМ
8.10 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС
9.00 Сегодня
9.20 МОНАСТЫРЬ
11.00 Сегодня
11.25 ВСЯ КОРОЛЕВСКАЯ РАТЬ
13.00 Сегодня
13.15 ЛЮБОВЬ И ТАЙНЫ САНСЕТ БИЧ
14.00 Николай II: последний путь. Прямая трансляция из СПБ
15.00 Сегодня
15.20 Николай II: последний путь
16.15 ВОЙНА В КОСМОСЕ
17.05 Криминал
17.15 Впрок
17.25 Криминальная Россия
18.00 Сегодня вечером
18.30 Николай II. Док.сериал
19.00 ГНЕВ
21.00 Сегодня
21.50 ДЕТЕКТИВ НЭШ БРИДЖЕС
22.45 Сегодняччко
23.20 Сегодня
23.45 ОТЕЛЬ НЬЮ-ХЭМПШИР

**КУЛЬТУРА**

7.05, 13.00, 19.30, 23.00 Новости культуры
7.25 Международное обозрение
8.05 Театр и я
8.45 Сокровища Петербурга
9.00, 11.00, 15.00, 17.00 Новости
9.05 Московские пенаты
9.25 Царская ложа
10.05 Театральная провинция?
10.30 Док.фильм
11.05 Муз.экспромт
11.15 Петербургский гурмэ
11.35 Концерт артистов балета
12.20 Без визы
12.30 Россия. Который час?
13.15 Счастливцевы и Несчастливцевы...
13.55 Щедрин - сюита
14.35 Видеопоэзия
14.45 Вместе с Фафалей
15.05 Мультфильмы
15.55 Лукоморье
16.15 Зинаида Гиппиус
16.45 Pro memoria. Русская горка
17.10 Музыка из Петербурга
17.50 Аванград
18.05 Новое кино
19.10 Чудо-сказка
20.45 После новостей...
21.05 ЖУРНАЛИСТ

**ТВ-6**

6.05 Любишь - смотри.
6.25 Приключения Билла и Теда
6.45 ДИСК-канал
7.10 Дорожный патруль
7.30 ТСН-6
7.40 Знак качества
7.55 Мультфильм
8.30 КРЫЛЬЯ 1-я с. США
8.55 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
9.30 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
10.30 ТСН-6
10.45 Знак качества
11.00 ДИСК-канал
11.45 Мужской клуб
12.35 Вы - очевидец
12.55 Телемагазин
13.30 ТСН-6
13.40 РАБЫНЯ ИЗАУРА
15.00 Мультфильм
16.00 ДИСК-канал
17.30 ТСН-6
16.35 Дорожный патруль
16.50 Видеоклипы
17.00 Те Кто
17.50 ДЕЖУРНАЯ АПТЕКА II
18.30 Ток-шоу Сделай шаг.
19.30 Новости дня
19.55 ТАЙНЫ ОТЦА ДАУЛИНГА
20.55 АНАСТАСИЯ. ЗАГАДКА АННЫ 1-я серия. Исторический сериал. США
22.55 ТСН-6
23.05 Дорожный патруль
23.15 ДИСК-канал
0.05 Знак качества
0.20 САМОЕ СЕКСУАЛЬНОЕ ЖИВОТНОЕ

**ТВ-ЦЕНТР**

4.50, 6.15 Навигатор
7.30 МАРИМАР
8.25 На Всем. юн. играх
9.30 На Всем. юн. играх
12.55, 13.55, 14.55, 23.20 Новости
13.00 Комильфо
13.15 Мультфильм
13.25 Хроно
14.00 МНЕ НЕ ЖИТЬ БЕЗ ТЕБЯ
15.30, 17.45 На Всем. юн. играх
18.50 Выступление Алексия II.
19.00 ЦАРЕУБИЙЦА
20.55 Новости
21.15 ФЕНИКС
22.15 На Всем. юн. играх
23.45 КИКА
1.35 Музфорум-98

**НТВ+ МИР КИНО**

9.35 СОЛДАТ УДАЧИ
10.20 ГРЕЧЕСКИЙ МАГНАТ
12.10 КиНовости
12.20 НЕВЕСТА ДЕКАБРЯ
13.45 Фильм-загадка
15.15 ОБМЕН КЛЮЧАМИ
16.50 ГРЕЧЕСКИЙ МАГНАТ
18.40 СОЛДАТ УДАЧИ
19.25 КиНовости
19.35 РАЗВЕДЕННАЯ ЖЕНЩИНА
21.35 ЖЕРТВЫ
23.00 МАНЬЯК

**НТВ+ НАШЕ КИНО**

9.04 МОРСКОЙ ВОЛК
10.10 КАВКАЗСКАЯ ПЛЕННИЦА...
11.25 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
12.30 ЗЕМЛЯ
13.55 КиНовости
14.05 ИГРОК
15.40 ФАНТАЗИЯ НА ТЕМУ ЛЮБВИ
17.00 ВЕЧНЫЙ ЗОВ
18.05 КиНовости
18.15 ВАЛЕНТИНА
19.50 МОРСКОЙ ВОЛК
21.00 ЦАРЕУБИЙЦА

